Цана асобнага нумару 20 гр.

Pierasyłka apłačana ryčałtam

№ 5 (198) Вільня, Нядзеля 6 Ліпня 1930 г. Год (VI)

# Сялянская Ніва

Орган Беларускага Сялянскага Саюзу — палітычная, грамадзкая, літэратур. і гаспадарчая газэта

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, Людвісарская 1 (Wilno, Ludwisarska 1)
Рэдакцыя адчынена ад 11 да 1 гадз. дня.
ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ
Падпіска каштуе на год 4 зл., на паўгода — 2 зл., на 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.

ЦАНА АБВЕСТАК: на 1-шай старонцы 60 гр., 2 і 3—50 гр., на 4-ай—40 грш. — за радок дробнага друку ў аднэй шпальце.

## Нягодная дэмагогія Польскага „Стронніцтва Хлопскага.“

У папярэднім нумары „Сялянскай Нівы“ было напісана некалькі слоў аб тым, чаму Беларусы пайшлі, на выбары з другімі нацыянальнымі меншасьцямі. Выясьнена там, як усе польскія партыі т. зв. польскай лявіцы адносяцца да нас Беларусаў і як усе яны заўсёды згодна могуць падзяліцца беларускім коштам.

Але вось перад намі ляжыць адозва польскага г. зв. «Строніцтва Хлопскага» з № 10, які апраўлены ў чырвоную цярністую карону, з партрэтам кандыдата ў паслы Антона Шапеля. Прачытаўшы гэны сьвісток жах бярэ чалавека: як могуць людзі дайсьці да такой нізасьці і подласьці ў сваей брахні, каб аплёўшы свой дзесяты нумар у чырвоны цярністы вянок падносіць гэтак атруту нашаму селяніну, каб ён галасаваў за сьпісак № 10, у якім на кандыдатаў пастаўлены прахадзімцы з цэлага сьвету!?

Каб ня быць галаслоўным, прыгледзьмося, хто-ж гэныя кандыдаты.

1. Гофмокль-Астроўскі, Варшаўскі адвакат, які страляе людзей за тое, што яны сьведчачы на судзе паказваюць не так, як адвакат Астроўскі хоча, а толькі паводле свайго сумленьня. Вяліка-панскія нэрвы пана адваката Астроўскага ня вытрымалі: — як-жа? я шляхціп і хачу каб сьведак паказваў так, а калі паказвае іначай — „pal w łeb!“ Гэта было, паночку Астроўскі, ў нас на Беларусі ўжо даўно-даўно, за часоў паншчыны. Сяньня гэтыя часы даўно ўжо мінулі. І гэты варшаўскі шляхціц мае бараніць нашага сяляніна? — Дзякую за такую абарону!

2. Антон Шапель, б. пасол. Дзе гэтага чалавека ня было? Былі калісь на нашых землях «сьвятой памяці» «Рады людовыя»: быў там Шапель, было „Вызваленьне“ быў там Шапель; была Польская «Партыя Хлопска», чырвоная, толькі без „цярністага вянка» — быў там Шапель. У пачатку 1928 г. Шапель разам з пaслом Шакуном злажыў заяву ў Беларускі Пасольскі Клюб, каб прынялі іх у сябры Клюбу. Клюб аднак, бяручы пад увагу шкодную працу Шапела для нашага сялянства ў прошласьці, адмовіўся прыняць яго. Пры выбарах у 1928 годзе Шапель працаваў з «адзінкаю», а цяпер апынуўся ў «Строніцтве Хлопскім». Шосты раз зьмяніў ужо скуру. Хіба-ж не апошні?

3. Кандыдат п. Адамовіч, б. пасол. Пісаць аб гэтым панку няма ніякай патрэбы, бо яго дужа добра памятуюць усе сяляне з часоў, калі ён многа ўсяго ўсім абяцаў, але нічога не зрабіў.

Але гэта йшчэ ня ўсё. На чале партыі, «Строніцтва Хлопскага» стаяць такія людзі, як старшыня, п. Ян Домбскі і віцэ-старшыня, п. Плюта. Ян Домбскі ў Рызе падзяліў Беларусь, не прызнаваў і не прызнае ніякіх Беларусаў, а пан Плюта праводзіць законы аб новым асадніцтве на нашых беларускіх землях.

А ў сваей адозве паны гэтыя пішуць, што ўсякія нацыянальныя непаразуменьні, гэта выдумка буржуяў. Ці вы, паночкі, думаеце, што наш селянін яшчэ такі цёмны, што палкне настаўлены вамі кручок з прыманкай «цярніста-чырвоным вянком» і аддасьць за вас галасы, каб вы маглі заковываць яшчэ мацней у ланцугі няволі?! Вы думаеце, што калі ўдалося вам абаламуціць несьвядомыя масы ў Лідзкім вокрузе і здабыць гэтак чатыры мандаты, дык гэта вам удасца і ў вокрузе Сьвянцянскім? Не, паночкі! Тут гэтага ня будзе і тут вы дастанеце належную для сябе адправу.

Грамадзяне Беларусы!

Калі хочаце, каб былі мацнейшыя, ланцугі няволі, галасуйце за № 10.

Калі хочаце мець асаднікаў, галасуйце за № 10.

Калі хочаце згубіць назаўсёды сваё нацыянальнае «я», галасуйце за № 10.

Калі хочаце далейшае полёнізацыі і большых падаткаў, галасуйце за № 10.

А калі хочаце паказаць, што вы хочаце зямлі, галасуйце за № 18!

Калі хочаце свае школы, галасуйце за № 18!

Калі ня хочаце асаднікаў, галасуйце за № 18!

**Муха.**

## Гутарка пасла Ф. Ярэміча з супрацоўнікам газэты „Robotnik“.

Даслоўны перадрук з газэты „Robotnik“ № 179 з дня 26 VI. с. г.

Дзеля таго, што ў рожных часопісях, часта супярэчных сваім поглядам, паявіліся весткі аб зьмене адносінаў Ураду да Беларусаў, мы скарысталі з прысутнасьці ў Варшаве пасла Ярэміча, старшыні Беларускага Клюбу ў Сойме, каб засягнуць ад яго выведу.

**Якая ёсьць мэта прыезду пасла ў Варшаву і ці гэты прыезд мае якую сувязь з весткамі, якія паявіліся ў прэсе аб канцэсіях Ураду для Беларусаў?**

— Мы прыехалі з дэлегацыяй, складаючайся з сэн. сэн. Рагулі і Багдановіча, а таксама і маей асобы да п. Міністра Асьветы ў справе адчыненьня крэдыту, ухваленага ў бюджэце 1930 — 31, на беларускую асьвету. Але нажаль п. Міністар Асьветы дэлегацыі не прыняў і ў „свой“ спосаб сказаў праз сэкрэтарку, што аб гэтых справах можа гаварыць не раней, як у верасьні.

Для мяне гэта ёсьць зразумела, якія зьмены зайшлі ў п. Міністра. Калі я быў у п. Міністра ў красавіку, справы гэты трактаваў рэчова, абяцовываючы даць канкрэтны адказ у травені; але зноў у „свой“ спосаб не маглі мы дайсьці да п. Міністра. І ўканцы атрымалі мы кароткі адказ, што аб гэтых справах будзе гаварыць у верасьні, што **паводле маей думкі ніколі.**

**Чаму п. Пасол так пэсымістычна глядзіцё на гэтыя адказы п. Міністра?**

— Папершае, з 200.000 зл., якія ёсьць у бюджэце прадбачаны **на дакончэньне бурсы ў Навагрудку,** да сягоняшняга дня мы не атрымалі аніводнага грошa. Будынiна, выведзена да першага паверху **агульным і надлюдзкім высілкам беларускага грамадзянства,** нішчыцца і здаецца ў верасьні, у канцы будаўлянага сэзону, работы распачынаць ня можна будзе.

Адносна вучыцельскіх курсаў, на якія бюджэт прадбачыў 150.000 зл., то да сягоньняшняга дня яшчэ нічога ня зроблена. Праўдападобна ў верасьні і гутаркі ня можа быць аб аткрыцьці курсаў дзеля таго, **што ўжо распачнецца вучэбны год.**

У справе **вучыцельскай сэмінарыі,** на якую бюджэт прадбачыў 100.000 зл., мы злажылі заяву на канцэсію, але да сягоняшняга дня **не атрымалі мы ніякага адказу.** З заявы п. Міністра вынікае, што ў **найлепшым выпадку будзе з намі „гаварыць“** аб гэтых справах толькі аж у верасьні, калі ў гэтым часе сэмінарыя павінна ўжо быць урухомлена.

І ўрэшце справа **падручнікаў школьных,** на якія бюджэт прадбачыў 50.000 зл. таксама да сягоньняшняга дня ані на крок не пасунулася наперад. І здаецца ў верасьні аб выдавецтве падручнікаў было-б „крыху“ запозна гаварыць.

**Вось гэта істотныя прычыны майго пэсымізму.**

Пытаў мяне пан аб канцэсіях цяперашняга Ураду для Беларусаў. Урады „мамаёвыя“ ці г. зв. лагер „пілсудчыкаў“ пакуль не дайшоў да ўлады вельмі часта гаварыў, што **толькі ён,** а ніхто іншы можа разьвязаць пытаньне нацыянальных меншасьцяў у Польшчы, а перадусім **пытаньне беларускае.** Сапраўднасьць, нажаль, зусім іншая, а іменна такога палітычнага тэрору, такога безпашчаднага **душэньня** ўсякай праявы нацыянальнай не дазналі мы ніколі.

Даволі будзе сказаць, што калі ў **парляманце польскім на шмат гадох знайшлася нарэшце значная большасьць у каторай мінімальныя нашыя нацыянальна культурныя патрэбы** знайшлі зразуменьне, то ў гэты мамэнт лагер „пілсудчыкаў“, а таксама высунены з яго Урад за ўсялякую цану хоча глуміць праявы беларускага культурнага жыцьця, не гаворачы ўжо аб палітычным.

Вось гэта ёсьць кароткі нарыс нашага жыцьця і гэтых т. зв. „канцэсіяў“, якія мы атрымалі ад „мамаёвых“ урадаў.

Хіба-ж хопіць!

## Кожны сьведамы беларус галасуе на № 18.

**БЕЛАРУСЫ** з паветаў: Сьвянцянскага, Браслаўскага, Пастаўскага і Дзісненскага, пакажыце сваю нацыянальную і палітычную сьведамасьць у дзень 13 ліпня с. г., ідучы як адзін чалавек, мужчыны і жанчыны да выбарных абводаў на галасаваньне і галасуйце за свой беларускі сьпісак **№ 18**

### Чуткі аб беларускай вучыцельскай сэмінарыі.

Паводле вестак, якія ходзяць у Вільні, беларуская вучыцельская сэмінарыя ў Вільні ўсё-ж такі будзе адчынена. Некаторыя гаворацць, што Мін. Асьветы выклікала ў Варшаву дыр. Віл. Бел. Гімназіі Астроўскага ў справе беларускай сэмінарыі, а некаторыя кажуць, што дыр. Астроўскі ўжо назначаны дырэктарам будучай віленскай беларускай вучыцельскай сэмінарыі і ўжо шукае памешканьня для сэмінарыі. Расейская газэта „Время" у гэтай справе ўжо пасьпяшылася падаткнуць паслу Ярэмічу, што не Ярэміч адкрывае сэмінарыю, а Астроўскі.

Не ад рэчы будзе крыху выясьніць адносіны пасла Ярэміча да гэтай справы.

Як ведама, дзякуючы стараньням і захадам пасла Ярэміча, Сойм асыгнаваў паўмільёна зл. на беларускія справы ў тым ліку сто тысяч на беларускую вучыцельскую сэмінарыю. А як відаць з гутаркі пасла Ярэміча з супрацоўнікам газэты „Robotnik", якую перадрукоўваем у гэтым нумары з „Robotnika", пасол Ярэміч не забыўся і дамагацца, каб гэтыя грошы былі на беларускую справу выданы. Канцэсіі на сэмінарыю пасол Ярэміч не дамагаўся, а дамагаўся, толькі, каб пастанова Сойму была выканана. Для Ярэміча ня важна хто будзе дырэктарам беларускай вучыцельскай сэмінарыі, а важна тое, каб гэтая сэмінарыя была і была сапраўды беларуская.

### Памятнік Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Пятру Крэчэўскаму.

У Чэхаславацыі эміграны беларусы паставілі памёршаму на эміграцыі ў Чэхаславацыі старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Пятру Крэчэўскаму надгробны памятнік. Дня 4 г. м., на Альшанскіх могілках у Празе адбылося ўрачыстае адкрыцьцё памятніка. Слава памяці Пятра Крэчэўскага, змагара за волю Беларускага Народу!

## Суд над Украінцамі.

Праз 26 дзён адбываўся суд у Львове над 17 украінцамі, якіх абвінавачываюць у прыналежнасьці да нелегальнай Украінскай Вайсковай Арганізацыі (УВО).

У 26-м дню расправы, Львоўскі Акружны Суд закончыў разгляд абвінавачаньняў падсудных прысудам аднаго абвінавачанага Рамана Біду на кару сьмерці і 7 асоб ад 2 да 4 цяжкай турмы. Рэшту абвінавачаных суд звольніў ад віны і кары.

Абарона засуджанага Р. Біды падае касацыю.

## З жыцьця Праваслаўнай Царквы ў Польшчы.

29 чэрвеня с. г. у Варшаве ўрачыста было адчынена Перадсаборнае Сабраньне. „Сабраньне" гэта складаецца з трыццацёх асоб, — дваццацёх міран і дзесяцёх духоўных. Мэта скліканьня гэтага сабраньня — падгатоўка праграмы, статуту і матэр'ялаў да Сабору, які згодна з дэкрэтам п. Прэзыдэнта павінен быць скліканы ў недалёкай будучыні. Пакульшто Сабраньне гэта толькі яшчэ пачынае сваю працу. Але ўжо з першых крокаў відаць, што мала яму прыдзецца працаваць самастойна, бо ўсё ўжо падгатоўлена ў папярэдніх тайных паседжаньнях прадстаўнікоў ураду з іерархіяй.

Старшынёй камісіі лічыцца сам мітрапаліт. Віцэ-старшынямі выбраны: прот. Ул. Юзьвюк, праф. Агіенько, а сэкрэтаром п. Кобрын.

## З заграніцы.

### Звальненьне ад акупацыі Надрэніі

Пасьля 12-ці гадовай акупацыі нямецкай правінцыі Надрэніі, ўрэшце для Нямеччыны сталіся рукі разьвязаны. Ужо на нямецкай тэрыторыі няма ані воднага жаўнера акупанта. Акупацыя Надрэніі для Нямеччыны была не малым тормазам у разьвіцьці дзяржаўнай гаспадаркі. Але Нямеччына ўсё-ж-такі дала сабе раду і ненарушаючы дагавору ў Вэрсалі за гэты час для яе цяжкіх часоў узрасла да адзаведнай сілы і прымусіла эўрапэйскія дзяржавы з ею лічыцца.

Акупацыя Надрэніі—гэта была калодка прывязаная да ног Нямеччыны. Дык і нічога дзіўнага, што грамадзянства акупаванай Надрэніі, пасьля асвабаджэньня ад акупацыі наладзіла ўрачыстае спатканьне гэтай хвіліны монifэстацыяй. Па заканчэньні тэрміну акупацыі 1 г. м. а гадзіне 12 дня на ўсіх дзяржаўных будынках зьявіліся нямецкія нацыянальныя сьцягі, а ў ва ўсіх сьвятынях праз цэлую гадзіну званілі ў званы.

Гэта трыумф волі і перамога Вэрсальскага дагавору.

### Японска-бальшавіцкае непаразуменьне.

Між японскай і бальшавіцкай уладай здарылася непаразуменьне на водах Камчаткі. Бальшавіцкі карабель абстрэліў без прасьцярогі японскі карабель. Аднаго японца з залогі забілі, а нескалька арыштавалі. Да Камчаткі Японія выслала ваенны карабель для усьмірэньня.

## З жыцьця у Польшчы.

### Кангрэс цэнтра-лявіцы ў Кракаве.

Трудна было і падумаць, што склікана аж шасьцьмі цэнтралевымі партыямі кангрэс пройдзе спакойна. Тым больш, што газэты шырока распісвалі аб „мобілізацыі" з абедзьвіх старон сіл, з боку арганізатараў кангрэсу і санацыі.

У Кракаў на 29 чэрвеня мелася прыехаць аж 6 тысяч „стшэльцаў". Але ўсіх ахвотнікаў сэнсацыі спаткала расчараваньне. Кангрэс адбыўся зусім спакойна.

Санацыя абмяжавалася выданьнем рожнародных адозваў і камунікатаў, у якіх падпісываючы правадыроў цэнтр-лявіцы паведамляла аб адкліканьні кангрэсу, а кангрэс здаволіўся вострымі рэзалюцыямі і прамовамі. Рэзалюцыі кангрэсу не пабачылі сьвятла дзеннага, бо ўлады іх сканфіскавалі.

Апазыцыйныя газэты падаюць, што на кангрэс зьехалася больш 30 тысяч асоб, а санацыйныя газэты цьвердзяць, што ня было больш як 5 тысяч. Незацікаўленыя кангрэсам, налічываюць удзельнікаў кангрэсу каля 12 тысяч асоб. Праўда знаходзіцца хіба пасярэдзіне.

На кангрэсе прамоўцы заяўлялі, што мэта кангрэсу — паваліць дыктатуру Пілсудзкага і ўзяць на свае плечы цяжар кіраваньня дзяржавай. Гэта цяпер адзіны кліч польскай апазыцыі. Толькі адна бяда, што санацыя ўступаць ад кіраўніцтва дзяржаўным рулём і нядумае, а ў апазыцыі нявідаць тае сілы, якая прымусіла-б у іх рукі перадаць уладу ў дзяржаве.

### Пасьля кангрэсу судовы працэс.

Газэты падаюць, што ўрад задумаў арганізатараў і ўчасьнікаў кракаўскага кангрэсу перадаць у суд за дзяржаўную здраду.

Як бачым палітычная ігра апазыцыі з урадам у котку мышку што раз, то больш заглыбляецца і пашыраецца. Ужо гэты спор—хто лепшы, з соймавых клюбаў і габінэтаў міністарскіх выплыў на вуліцу і пад развагу прысяжных судзьдзяў у Кракаве.

Словам, канец гэтай разгрыўкі мусіць быць цікавы.

18

18

18

18

18

Нумары восемнасткі з газэты выраж кожны паасобку, схавай на галасаваньне, лішнія раздай суседзям і знаёмым.

